■ Жанна Юбніцкая

## У МАГІЛЁВЕ З'ЯВІЛАСЯ ВЫСТАВА-КІРМАШ «ПАНЯДЗЕЛАК — ДЗЕНЬ ОПТУ»

**Некалькі дзясяткаў прамысловых прадпрыемстваў і арганізацый, якія займаюцца аптовымі пастаўкамі, бяруць удзел у выставе-кірмашы «Панядзелак — дзень опту», якая адкрылася 12 мая ў Магілёўскім гарадскім цэнтры развіцця малога прадпрымальніцтва.**

«Неабходнасць правядзення сённяшняга мерапрыемства выклікана тэхнічным рэгламентам Мытнага саюза ў частцы сертыфікацыі прадукцыі лёгкай прамысловасці, які хутка набудзе моц. Кіраўніцтва краіны разумее і прадбачыць усе магчымыя цяжкасці, з якімі могуць сутыкнуцца нашы індывідуальныя прадпрымальнікі ў выніку гэтай падзеі», — заявіў, адкрываючы выставу, намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама Віктар Некрашэвіч.

Паводле яго слоў, улады прымаюць меры для мінімізацыі магчымых негатыўных наступстваў ад увядзення новых правілаў гандлю і прапаноўваюць індывідуальным прадпрымальнікам заключаць выгадныя кантракты на дробнаоптовую закупку тавараў у беларускіх прадпрыемстваў і арганізацый, якія займаюцца як вытворчасцю, гэтак і буйнымі імпартнымі пастаўкамі.

«У сакавіку кіраўніком дзяржавы пры разглядзе гэтай тэмы былі дадзены канкрэтныя даручэнні ў частцы стварэння ў кожнай вобласці інфраструктуры аптовага гандлю. Для ажыццяўлення цэнтралізаваных паставак у нашу краіну тавараў замежнай вытворчасці, запатрабаваных на спажывецкім рынку вобласці, вызначаны базавыя аптовыя арганізацыі, якім створаны ўмовы для паскарэння атрымання тавараў прыватным сектарам рэгіёну», — сказаў Некрашэвіч.

Ён зазначыў, што зараз толькі ў камунальных аптовых арганізацыях функцыянуюць пяць магазінаў-складоў. Апрача таго, на тэрыторыі вобласці працуюць прадстаўніцтвы розных вытворцаў, што ўваходзяць у канцэрн «Беллегпрам».

На выставе-кірмашы паказаны ўзоры і прапануюцца да закупкі тавары як айчыннай, гэтак і замежнай вытворчасці з поўным пакетам адпаведных дакументаў, падкрэсліў чыноўнік.

Апрача тавараў лёгкай прамысловасці ўвазе наведвальнікаў выставы прэзентаваны мэбля, станкі і абсталяванне, аўтазапчасткі, электратавары, награвальнікі, абутак, будматэрыялы і іншыя прамысловыя тавары. Апрача таго, закупляць дробным оптам прапаноўваецца прадукты харчавання: малочныя тавары, хлебабулачныя вырабы, кансервы, напоі.

У Магілёўскім аблвыканкаме спадзяюцца, што праект «Панядзелак — дзень опту» атрымае ўстойлівае развіццё і ў ім будуць зацікаўлены як прадстаўнікі малога бізнесу рэгіёну, гэтак і прадпрыемствы і арганізацыі, якія прапануюць тавары оптам.

ГРАМАДСТВА

■ Якуб Корсак

## 100 МАГІЛЁЎЦАЎ ПРОСЯЦЬ ПУЦІНА НЕ ПЕРАКРЫВАЦЬ РЭЧЫШЧА ДНЯПРА ПАД СМАЛЕНСКАМ

**Калі ж прэзідэнт Расіі ўсё ж такі прыслухаецца да лідэра ліберальна-дэмакратычнай партыі Уладзіміра Жырыноўскага і зробіць гэта, то грамадзяне абяцаюць ініцыяваць рэферэндум аб выхадзе Беларусі са складу саюзнай дзяржавы.**

Ініцыятарам звароту, які быў накіраваны сёння ў адміністрацыю расійскага прэзідэнта, выступіў грамадскі актывіст Аляксей Паўлоўскі.

Паводле яго падобнае выказванне з'яўляецца праявай недобрасуседства, бо ад перакрыцця рэчышча Дняпра пацерпіць у першую чаргу Беларусь, а не Украіна.

"Ёсць чатыры прычыны паводле якіх нельга гэтага рабіць. Па-першае, наш горад стаіць на Дняпры і аб'ём вады ў выпадку перакрыцця рэчышча ракі пад Смаленскам істотна скароціцца.

Па-другое, гэта будзе катастрофай, якую можна параўнаць з той, калі войскі Пятра І спалілі наш горад. Ранней нас палілі, а цяпер хочуць сварыць тут засуш.

Па-трэцяе, дзе пасля гэтага Аляксандр Лукашэнка будзе лавіць самоў у 58 кілаграм? І ў чацвёртых, мы будзем ініцыяваць рэферэндум аб выхадзе не толькі з саюзнай дзяржавы, але і з Мытнага саюза. У гэтым выпадку з дуракамі рускімі, нам не па дарозе", - кажа грамадскі актывіст.

Паўлоўскі засцерагае Пуціна аб недапушчальнасці падобных выказванняў расійскага палітыка, які больш чым на фрыка і блазня не цягне.

Нагадаем, што 15 траўня, знаходзячыся ў Смаленску скандальны расійскі палітык Уладзімір Жырыноўскі прапанаваў змяніць рэчышча Дняпра і накіраваць воды з яго ў іншыя рэкі. Прапанова была звязаная з абмежаваннем паставак вады ў акупаваны расійскімі войскамі Крым украінскімі ўладамі. Губернатар Смаленшчыны сказаў, што падтрымае рашэнне, калі яно будзе прынята на самым высокім узроўні.


# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№70

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 28 траўня 2014 г.

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў,
вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**


ГРАМАДСТВА

## У МАГІЛЁВЕ СТАРТАВАЛА ГРАМАДСКАЯ КАМПАНІЯ ПА ВЯРТАННІ ЦЭНТРАЛЬНЫМ ВУЛІЦАМ ГІСТАРЫЧНЫХ НАЗВАЎ

**У Магілёве больш за сто прадстаўнікоў творчай і навуковай эліты падпісалі «Магілёўскі тапанімічны маніфест» з заклікам выкарыстоўваць у паўсядзённым жыцці гістарычныя назвы шэрагу цэнтральных вуліц і плошчаў горада.**




Як паведаміў ініцыятар стварэння і падпісання «Тапанімічнага маніфесту» магілёўскі гісторык Аляксандр Агееў, мэта маніфесту - пачаць як мага больш шырока выкарыстоўваць у зносінах гістарычныя назвы, якія адлюстроўваюць унікальнасць Магілёва. Таму было вырашана пачаць менавіта з прызнанай эліты горада - людзей самавітых і паспяховых ў сваіх сферах дзейнасці, каб потым за імі падцягнуліся і астатнія пласты грамадства.

Штуршком да стварэння дадзенага маніфесту стала грамадскае абмеркаванне «Магілёўская тапаніміка: павольны прагрэс у рамках закона?», якое ў сакавіку 2013 арганізавала грамадска - культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!», адзначыў БелаПАН Агееў.

Па словах гісторыка, сярод тых, хто яго падпісаў - выкладчыкі, навукоўцы, артысты, грамадскія дзеячы, усяго каля 120 чалавек. Урачыстая прэзентацыя маніфесту адбылася 21 мая ў рэстаране «Ізба».

Згодна з дакументам, яго падпісанты прымаюць на сябе «ганаровы абавязак» выкарыстоўваць у паўсядзённым жыцці і прапагандаваць вяртанне гістарычных магілёўскіх тапонімаў, такіх як вуліца Ветраная (для часткі вуліцы Ленінскай ад Савецкай плошчы да вуліцы Болдзіна), Вялікая Садовая (для часткі вуліцы Ленінскай ад вуліцы Болдзіна да гасцініцы «Губернская»), вуліца Малая Садовая замест вуліцы Піянерская, вуліца Зялёная замест вуліцы Карла Маркса, вуліца Віленская (для часткі вуліцы Лазарэнка ад вуліцы Першамайскай да ракі Дубравенка).

Тое ж самае тычыцца Быхаўскага і Мінскага рынкаў, якія па афіцыйных дакументах пазначаныя як Магілёўскі і Цэнтральны адпаведна. Між тым гістарычныя назвы дадзеных рынкаў у цяперашні час найчасцей выкарыстуемыя сярод магілёўцаў, чым афіцыйныя наватворы.

Гістарычныя тапонімі «Касцярня» (цяпер плошча Арджанікідзэ), завулак Лютэранскі (цяпер Мігая), Дняпроўскі праспект (цяпер вуліца Першамайская), вуліца Гваздаўка (цяпер Боткіна), падпісанты прапануюць выкарыстоўваць у адпаведнасці з «асабістымі перакананнямі».

працяг на стр.3

■ Станіслаў Дубовік

## МАГІЛЁЎСКІЯ ВАЛЕЙБАЛІСТЫ ВЫБІВАЮЦЬ ЗАРОБКІ ПРАЗ СУД

**Дублёрскі склад каманды "Тэхнапрыбор" не бачыў заробкаў з кастрычніка 2013 года.**

Я ♥ ВОЛЕЙБОЛ

Сёлета ў красавіку адбыўся суд, які замірыў бакі канфлікту і абавязаў наймальніка разлічыцца з валейбалістамі. Аднак абяцаных грошай спартоўцы так і не атрымалі.

Падчас суда стала вядома, што 3 студзеня 2014 года наймальнік выдаў загад аб зніжэнні заробкаў валейбалістам у пяць разоў, аднак спартоўцам пра гэта ніхто не паведаміў. Акрамя таго, валейбалісты даведаліся, што ўсе 13 чалавек без уведамлення звольненыя 13 траўня. Працоўныя кніжкі ім дагэтуль не вярнулі.

Спартоўцы лічаць, што юрыст валейбольнага клуба падрабіў дакументы. Па іх словах, 16 траўня трэнер дублёрскага складу каманды падаў заяву на звальненне па ініцыятыве работніка. І загаду пра звальненне каманды на той момант не было.

Цяпер калектыўную заяву валейбалістаў разглядае Дэпартамент дзяржаўнай інспекцыі працы. А самі спартоўцы рыхтуюцца да чарговага судовага пасяджэння.

korrespondent.net

## ГЛАВА ЦИК УКРАІНЫ: НЕОБХОДИМОСТИ В ПРОВЕДЕНИИ ВТОРОГО ТУРА ВЫБОРОВ ПРЕЗИДЕНТА НЕТ

**Охендовский отметил, что один из кандидатов набирает большинство голосов во всех регионах.**



Глава Центральной избирательной комиссии Украины Михаил Охендовский заявляет, что необходимости в проведении 2-го тура президентских выборов нет.

Об этом он заявил на брифинге 26 мая, сообщает Интерфакс-Украина.

«Хотя в ЦИК еще не поступили все сообщения, во-первых, с учетом тенденций, которые демонстрируются в ходе подсчета голосов, во-вторых, количество голосов, отданных за кандидатов в президенты, а также того факта, что один из кандидатов, очевидно, набирает большинство голосов во всех, без исключения, регионах, уже сейчас можно сделать главный вывод: необходимости в проведении повторного голосования не будет», - заявил Охендовский.

Он также сообщил, что на данный момент в ЦИК не поступило ни одного сообщения об обработке протоколов участковых комиссий из трех окружкомов, которые расположены в Донецкой области: №47 (Александровка), №50 (Красноармейск), №60 (Великая Новоселовка).

В то же время, по его словам, в округе №60 нет возможности перенести данные в компьютерную систему, поэтому они будут учтены только на основании бумажного протокола, который доставят в ЦИК.

Согласно данным обработки 85,12% протоколов в электронном виде за внефракционного народного депутата Петра Порошенко проголосовали 54,04% избирателей, лидера Всеукраинского объединения Батькивщина Юлию Тимошенко – 13,12%.

euroradio.fm

## МЗС: БЕЛАРУСЬ ПАВАЖАЕ ВЫБАР УКРАІНСКАГА НАРОДА

**Міністэрства замежных спраў нашай краіны выступіла з заявай у сувязі з правядзеннем ва Украіне прэзідэнцкіх выбараў.**

У ёй адзначаецца, што «выбарчая кампанія праходзіла ў бесprэцэдэнтна жорсткай і напружанай абстаноўцы. На жаль, частка грамадзян не была ўключана ў выбарчы працэс». Разам з тым украінскае грамадства «прадэманстравала высокі ўзровень грамадзянскай свядомасці і імкненне пачаць рух да забеспячэння нацыянальнай згоды, унутранай стабільнасці і ўстойлівага эканамічнага і палітычнага развіцця», — адзначаецца ў заяве МЗС Беларусі.

У знешнепалітычным ведамстве спадзяюцца, што гэтыя выбары стануць значным крокам на шляху да аднаўлення ўзаемаразумення, нармалізацыі сітуацыі ў краіне, пабудовы ва Украіне паўнавартаснай вертыкалі ўлады.

«Беларусь паважае выбар украінскага народа і гатова да далейшага канструктыўнага супрацоўніцтва са сваім суседам», — гаворыцца ў заяве Міністэрства замежных спраў Беларусі.

Нагадаем, на прэзідэнцкіх выбарах ва Украіне ў першым туры перамагае бізнесмен Пятро Парашэнка.

## НА ВЫБАРАХ У ЕЎРАПАРЛАМЕНТ ПРАВЫЯ ЎМАЦАВАЛІ СВАЕ ПАЗІЦЫІ

**Выбары ў краінах Еўрасаюза прайшлі 25 траўня.**

Па іх выніках правацэнтрысцкая Еўрапейская народная партыя атрымае 212 з 751 месцаў. Гэта азначае, што Еўракамісію, хутчэй за ўсё, узначаліць былы кіраўнік Еўрагрупы Жан-Клод Юнкер, прагназуе РБК.

Сацыял-дэмакратычнае аб'яднанне Еўрапейскага парламента — Прагрэсіўны альянс сацыялістаў і дэмакратаў — атрымае прыкладна 185 крэслаў.

На выбарах у Еўрапарламент адзначаецца ўзмацненне радыкалаў як правага, так і левага толку. Французскі ультраправы «Нацыянальны фронт» Марын Лё Пэн набраў 25% галасоў. Такім чынам, ён можа прэтэндаваць на 25 з 74 парламенцкіх месцаў Францыі. Ультраправыя выйгралі і ў Даніі. А партыя незалежнасці Злучанага Каралеўства, якая выступае за выхад Брытаніі з ЕС і больш жорсткую іміграцыйную палітыку, атрымала рэкордныя 31,1%.

Нацыяналісты патрабуюць рашучага перагляду еўрапейскіх пагадненняў, як і прадстаўнікі левага лагера. У Грэцыі ультралевая СІРЫЗА завявала каля 30%. У Італіі партыя «Пяць зорак» набірае 26,5%.



Ядвіга Лютова

## У МАГІЛЁВЕ АДКРЫЛІСЯ ПУБЛІЧНЫЯ КУРСЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**У Магілёве 11 мая прыкладна 40 чалавек узялі ўдзел у першых занятках публічных курсаў беларускай мовы «Мова нанова», якія пачаліся ў грамадскім цэнтры «Кола».**




«Мэта правядзення гэтых курсаў у тым, каб нашы людзі пачалі цікавіцца роднай мовай і, магчыма, удасканальвалі сваё веданне яе», — паведаміў суарганізатар курсаў Аляксей Гарноська.

Магілёў стаў дзявятым горадам, дзе арганізаваныя курсы «Мова нанова». Першыя заняткі вялі філолаг Алеся Літвіноўская і журналіст Глеб Лабадзенка. Цэнтральнай яго тэмай стала пытанне ўжывання беларускай мовы ў паўсядзённым жыцці. Як зазначыў Лабадзенка, нягледзячы на тое, што большасць насельніцтва краіны называюць яе роднай, пачуць беларускую гаворку на вуліцах гарадоў практычна немагчыма.

«Многія людзі кажуць, што іх родная мова беларуская, але не размаўляюць на ёй. Пры гэтым яны сцвярджаюць, што калі спатрэбіцца, то яны будуць размаўляць. Аднак гэтае «спатрэбіцца» ўсё ніяк не надыходзіць», — зазначыў вядучы. У выніку людзі страчваюць магчымасць размаўляць на беларускай мове, і ім зноў трэба вывучаць яе, тлумачыць Лабадзенка неабходнасць правядзення курсаў «Мова нанова».

Паводле яго, на працягу некалькіх апошніх дзесяцігоддзяў развіццю беларускай мовы перашкаджалі два стэрэатыпы: яе лічылі «калгаснай», бо на ёй размаўлялі гараджане ў першым пакаленні, якія выйшлі з вёсак, а такасама «мовай апазіцыі», таму што на ёй часта выступалі палітычныя дзеячы, якія стаялі на пазіцыях нязгоды з палітыкай цяперашняй улады.

«Мы хочам гэтыя два стэрэатыпы адкінуць. Тыя, хто ходзіць на нашы курсы, — гэта не «калгаснікі» ці апазіцыя», — сказаў Лабадзенка, падкрэсліўшы, што ніякія палітычныя тэмы на курсах закранацца не будуць. Пры гэтым ён зазначыў, што трэндам і модай апошняга часу з'яўляецца якраз выкарыстанне беларускай мовы ў штодзённых камунікацыях.

«Беларуская мова адкрывае для чалавека новы сусвет», — заявіў ён, расказваючы, як пачаць размаўляць па-беларуску штодзённа.

Слухачы курсаў у Магілёве пазнаёміліся з рознымі беларускамоўнымі варыянтамі сваіх імёнаў, чыталі скорагаворкі, адгадвалі працяг прыказак.

Ад 14 мая штотыднёвыя заняткі вядзе настаўнік беларускай мовы і літаратуры магілёўскай гімназіі №1, пераможца гарадскога конкурсу-фестывалю педагагічных ідэй «Настаўнік года — 2013» Юрый Каласоўскі.

## У МАГІЛЁВЕ СТВОРАНА ПРАВААБАРОНЧАЯ ГРУПА СУПРАЦЬ КАРНАЙ ПСІХІЯТРЫІ

**Магілёўская праваабарончая група, створаная ў пачатку мая выпускнікамі школы па правах чалавека ў Вільне, ставіць сваёй мэтай барацьбу з карнай псіхіятрыяй.**

«Так склалася, што ніхто, акрамя нас, у Беларусі не ведае, як процідзейнічаць карнай псіхіятрыі», — заявіў магілёўскі журналіст Аляксандр Буракоў, які ўвайшоў у лік заснавальнікаў групы.

Ён адзначыў, што першым чалавекам з Беларусі, які звярнуўся ў Маскву ў Незалежную псіхіятрычную асацыяцыю Расіі, была нябожчыца Крысціна Шацікава, актывістка апазіцыі. Паводле яго, у асацыяцыі працуюць дзейныя псіхіятры, якія могуць правесці кваліфікаваную псіхіятрычную экспертызу.

«І калі ўзнікла сітуацыя з віцебскім доктарам Ігарам Пастновым, я ўспомніў вопыт Крысціны, і мы прыйшлі да высновы, што нічога больш эфектыўнага для процідзеяння карнай псіхіятрыі мы не знойдзем. Мы ездзілі з Пастновым у Маскву, і высветлілася, што на яго непраўамерна спрабавалі ўздзейнічаць, выкарыстоўваючы псіхіятрыю», — паведаміў Буракоў. Ён падкрэсліў, што «зараз гэты механізм процідзеяння ёсць, мы ўмеем з ім працаваць і дапамагаем тым, хто да нас звяртаецца».

«У Беларусі склалася такая сітуацыя, што мы можам неафіцыйна кансультавацца з пэўнымі знакавымі ў псіхіятрыі персонамі, але афіцыйна рабіць тое, што робіцца ў Расіі, у нас фактычна немагчыма», — адзначыў Буракоў.

Акрамя кансультатыўнай дапамогі, якую аказвае група шляхам экспертызы, якая праводзіцца маскоўскімі псіхіятрамі, маладыя магілёўскія праваабаронцы праводзяць адукацыйныя сустрэчы і семінары па тэме процідзеяння карнай псіхіятрыі.

«Прыкладна два гады таму была прынятая новая рэдакцыя закона аб псіхіятрычнай дапамозе. Гэты закон практычна не абмяркоўваўся, але ён развязвае рукі псіхіятрам, якія ўжо на законных падставах могуць пазбавіць чалавека на некалькі месяцаў усякай сувязі з навакольным светам, як гэта было з Пастновым. І цяпер стаіць пытанне аб неабходнасці пачаць кампанію па змяненні закона аб псіхіятрычнай дапамозе», — сказаў Буракоў.

Удзельнік Магілёўскай праваабарончай групы таксама адзначыў, што яна не мае якой-небудзь жорсткай структуры і з'яўляецца грамадскай ініцыятывай, якая супрацоўнічае з праваабаронцамі закрытага раней беларускімі ўладамі цэнтра «Вясна».

■ Яўген Калмач

# БЫЛЫ ГЕНДЫРЭКТАР ААТ «ХОЛДЫНГ «МАГІЛЁЎВАДБУД» ПРЫГАВОРАНЫ ДА СЯМІ ГАДОЎ ПАЗБАЎЛЕННЯ ВОЛІ

**Суд Ленінскага раёна Магілёва прызнаў былога генеральнага дырэктара ААТ "Холдынг «Магілёўвадбуд» Яўгена Зюзіна вінаватым у карупцыйных злачынствах і прыгаварыў яго да сямі гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**



12 мая суд прызнаў даказанай віну Зюзіна ў завалоданні маёмасцю, учыненым службовай асобай з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў шляхам злоўжывання сваімі службовымі паўнамоцтвамі, а таксама ў атрыманні хабару двойчы ў буйным памеры. Былому гендырэктару вынесена абвінавачанне на падставе часткі 1 артыкула 210 (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі) і часткі 2 артыкула 430 (атрыманне хабару паўторна ў буйным памеры) КК.

Згодна са звесткамі следства, былы кіраўнік «Магілёўвадбуда» ў ліпені 2010 года даў незаконнае ўказанне супрацоўнікам філіяла арганізацыі ў горадзе Усінску Рэспублікі Комі РФ вырабіць паліўна-запраўчную картку, якой ён карыстаўся ў асабістых мэтах, не падазраючы, што за ім ужо вялося назіранне. Апрача таго, ён двойчы браў хабар ад прадстаўнікоў філіяла ў 200 тысяч расійскіх рублёў.

Апрача пазбаўлення волі Зюзін прыгавораны да штрафу ў 300 базавых велічыняў (45 млн. рублёў), у яго канфіскаваная маёмасць, ён пазбаўлены права займаць на працягу пяці гадоў пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў. Таксама з абвінавачванага спагнаны ў даход дзяржавы 51 млн. рублёў неабгрунтавана атрыманага абагачэння.

Зюзін нязгодны з прысудам і заявіў аб намеры абскардзіць яго. «Прыгавор зроблены на базе падтасовак. Адносна 430-га артыкула катэгарычна нязгодны. Я нязгодны з гэтым рашэннем. Вы пакрываеце бандыцкую групоўку», — сказаў ён.

«Яны мяне сюды пасадзілі, каб самім працягваць красці грошы», — заявіў Зюзін у судзе.

# ЗАВОД "ЧЫРВОНЫ МЕТАЛІСТ" ІДЗЕ КА ДНУ

**Пра гэта паведамляюць рабочыя прадпрыемства.**

Прычына завадскога крызіса палягае ў тым, што няма збыту выробленай прадукцыі. Усе склады затараны ёй.

За красавік рабочыя атрымалі прэмію ў памеры ўсяго 1% ад заробку, што складае ў сярэднім каля 30-35 тысяч рублёў.

Адміністрацыя ўжо папярэдзіла рабочых, што з чэрвеня завод пераходзіць на чатырохдзёнку, а ў перспектыве магчыма і трохдзёнка.

Акрамя таго, рыхтуецца да скарачэння пэўная колькасць рабочых. У першую чаргу будуць скарачаць пенсіянераў.

Рабочыя наракаюць, што пасля набыцця новага абсталявання ўзнікла такая сітуацыя. Якасць прадукцыі істотна не палепшылася, аднак скарацілася патрэба ў некаторых аперацыях, якія цяпер за рабочых выробляюць новыя станкі.

Трэба адзначыць, што на дадзены момант на заводзе працуе каля 200 чалавек. Сярэдні заробак складае каля 4 мільёнаў рублёў.

■ Станіслаў Дубовік

# У МАГІЛЁВЕ МАЦІ-АДЗІНОЧКА, ЯКУЮ ВЫСЯЛЯЮЦЬ З ІНТЭРНАТА, МАЕ НАМЕР ПРАВЕСЦІ АКЦЫЮ ПРАТЭСТУ



**Магіляўчанка Ірына Ільінская, маці-адзіночка двух непаўналетніх дзяцей, мае намер правесці 1 чэрвеня пікет супраць высялення яе сям'і з інтэрната ААТ «Будтрэст № 12».**

«У Дзень абароны дзяцей я буду адстойваць правы сваіх дзяцей, таму што нас бессаромна выкідаюць на вуліцу. І выдаюць такія законы, што маці-адзіночку, якая знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку, з двума дзеткамі можна выселіць, не даючы жылля», — заявіла Ільінская. Пікет жанчына мае намер правесці ў цэнтры горада.

Нагадаем, суд Ленінскага раёна Магілёва пагадзіўся з высновамі адміністрацыі будтрэста № 12 аб неабходнасці высялення Ільінскай з двума дзецьмі васьмі і двух гадоў з інтэрната будаўнічай арганізацыі. 23 красавіка калегія Магілёўскага абласнога суда адмяніла гэтае рашэнне і накіравала яго ў раённы суд на новы разгляд. Дата разгляду пакуль невядомая.

18 сакавіка прыкладна 30 бацькоў вучняў сярэдняй школы № 26 звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай не дапусціць высялення з інтэрната Ірыны Ільінскай з двума малалетнімі дзецьмі. Адміністрацыя прэзідэнта пакінула зварот без разгляду. «Звароты, у якіх абскарджваюцца судовыя пастановы, пакідаюцца без разгляду і падлягаюць вяртанню заяўнікам», — гаварылася ў адказе з адміністрацыі.

У 2004 годзе з Ільінскай быў заключаны бестэрміновы дагавор найму жылога памяшкання ў інтэрнаце будтрэста №12. Аднак у 2011 годзе з ёю перазаключылі дагавор на тэрміновы, патлумачыўшы, што ніякіх наступстваў для яе не будзе. Пасля заканчэння тэрміну дагавору найму жылога памяшкання адміністрацыя будтрэста падала іскавую заяву аб высяленні Ільінскай і яе двух малалетніх дзяцей.



■ Пан Тадеуш

# БЕЛАРУСЫ ЦЯПЕР З'ЯЎЛЯЮЦЦА ПАЛІТЫЧНАЙ НАЦЫЯЙ, А НЕ ЭТНІЧНАЙ, ЛІЧЫЦЬ ПАЛІТОЛАГ АНДРЭЙ КАЗАКЕВІЧ

**Працэс фармавання беларускай нацыі завершаны, і беларусы сёння - гэта палітычная нацыя, а не этнічная, заявіў на публічнай лекцыі «Пачаць пісаць па-беларуску. Беларускае адраджэнне канца XIX - пачатку XX стагоддзя ў рэгіянальным і сацыяльным вымярэнні» 17 мая ў Магілёве дырэктар Інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» Андрэй Казакевіч.**



«Беларуская нацыя аформілася. Яна, можа, адрозніваецца ад таго, што ёсць напрыклад у Літве ці Польшчы, асабліва, што тычыцца мовы. У нас мова аслаблена як чыннік гуртавання беларускай нацыі. Але 80% насельніцтва Беларусі ідэнтыфікуе сябе беларусамі, мае станоўчае стаўленне да беларускай дзяржавы», - адзначыў палітолаг.

Акрамя таго, па словах навукоўца, існуюць інстытуты, што ўмацоўваюць беларускую палітычную самасвядомасць. Гэта, у першую чаргу, сістэма адукацыі і адміністрацыйныя структуры.

У той жа час Андрэй Казакевіч пазначыў, што завершанасць фармавання нацыі не ёсць нечым нязменлівым. На яго думку, нацыі трансфармуюцца пад уплывам розных чыннікаў, напрыклад, такіх як палітычная сітуацыя, змены ў складзе тых ці іншых груп насельніцтва, культурных асаблівасцей.

Аналізуючы першую хвалю беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння, што адбывалася напрыканцы XIX - пачатку XX стагоддзяў, Казакевіч падкрэсліў - большасць прадстаўнікоў беларускай эліты тых часоў паходзіла з мясцін у абшары паміж Мінскам і тагачаснай Вільняй. Пра гэта сведчыць даследаванне інстытута «Палітычная сфера», якое прасачыла лёсы каля сотні дзеячоў беларускага культурнага руху. Яны зацікавілі даследчыкаў тым, што у свядомым узросце пачалі пісаць свае творы па-беларуску.

Так, 35 чалавек з іх нарадзілася ў Віленскай губерні, 34 - у Мінскай. У астатніх губернях даная колькасць значна меншая - у Гродзенскай - 12, а ў Магілёўскай - 4 чалавекі. Больш за палову літаратараў паходзіла з сялян і шляхты.

Згодна даследавання, беларускі рух сто гадоў таму быў справай малады - з даследаваных сотні літаратараў 67 нарадзіліся ў 1880-90 гадах, мелі досыць высокі ўзровень адукацыі, займаліся навукай, культурай ці выкладаннем.

Андрэй Казакевіч адзначыў, што тэрытарыяльная асаблівасць паходжання большасці дзеячоў беларускага культурнага руху канца XIX - пачатку XX стагоддзяў праявілася і падчас першых прэзідэнцкіх выбараў. У 1994 годзе больш за 30% жыхароў абшару Мінска і так званай Усходняй Віленшчыны аддалі свае галасы нацыянальна-дэмакратычным кандыдатам - Зянону Пазняку і Станіславу Шушкевічу.

# У МАГІЛЁВЕ СТАРТАВАЛА ГРАМАДСКАЯ КАМПАНІЯ ПА ВЯРТАННІ ЦЭНТРАЛЬНЫМ ВУЛІЦАМ ГІСТАРЫЧНЫХ НАЗВАЎ (ПРАЦЯГ СТР.1)

Такая варыятыўнасць прапануецца і ў выбары назвы цяперашняй Савецкай плошчы. Акрамя дадзенай назвы, паводле «Тапанімічнага маніфесту» , яе можна называць па - старому - Гандлёвай, Думскай, Губернатарскай, Свабоды або згодна з прапанаваным нядаўна варыянтамі - Плошча Славы, Ратушная плошча.

Да канца мая арганізатары плануюць стварыць групу ў сацыяльнай сетцы «ВКонтакте» , дзе кожны жадаючы зможа выказаць сваё меркаванне адносна «Магілёўскага тапанімічнага маніфесту» і падпісаць яго.

Нагадаем, што ў Магілёве мноства вуліц і плошчаў гістарычнага цэнтра носяць імёны дзеячаў камуністычнага руху: вуліцы Карла Маркса, Дзяржынскага, Ленінская; бульвар Леніна; плошчы Леніна, Арджанікідзэ і г. д.

У снежні на прэсавай канферэнцыі цяперашні старшыня Магілёўскага гарвыканкама Уладзімір Цумараў паведаміў, што цэнтральным вуліцам Магілёва будуць вернуты гістарычныя назвы.




"Праводзіцца планамерная праца па вяртанні цэнтральным вуліцам Магілёва гістарычных назваў. Так, завулку ў раёне дома №17 па вуліцы Ленінскай вернута гістарычная назва — завулак Спаскі. Праца будзе праводзіцца і далей", — сказаў граданачальнік. Ён нагадаў аб вяртанні ў 2007 годзе вуліцы Карла Лібкнехта гістарычнай назвы «завулак Пажарны».

На пешаходнай жа частцы вуліцы Ленінскай цяпер ідзе дубляванне гістарычнай назвай Вялікая Садовая.

Вітольд Няўрыда

# АЛЯКСЕЙ ЯКАЎЛЕЎ РАСПАВЁЎ СВАЮ ВЕРСІЮ ТАГО, ШТО АДБЫЛОСЯ НА ВЯЛІКДЗЕНЬ

**Намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама паведаміў "НАШ Магілёў", што ён сапраўды наводзіў у двары парадак, аднак рабіў гэта ў інтарэсах грамадзян, якія папярэдне звярнуліся да яго.**



**Ціхі дворык стаў прыцягальным месцам для аматараў спіртных напояў**

Дом 31А па вуліцы Габраўская ў Магілёве пабудаваны не так даўно. У двары добрая інфраструктура, у тым ліку ёсць альтанка і лаўкі. У двары гэтага ж дома знаходзіцца і крама "Колас".

Ціхае ўтульнае месца стала прыцягальным для шумных кампаній і аматараў выпіць. У якасці месца для распіцця спіртных напояў пачала выкарыстоўвацца дзіцячая пляцоўка і альтанка, якая размешчана на ёй.

- Да мяне, як да старшыні кааператыва дома, цягам апошніх месяцаў неаднаразова звярталіся жыхары з просьбай паспрыяць таму, каб былі захаваны дрэвы і газоны, крама "Колас" была зачынена, а альтанка і лаўкі дэмантаваныя. Справа ў тым, што набыў спіртное, нашы далёка не культурныя грамадзяне, адразу ідуць у альтанку і без сораму пачынаюць распіваць іх там. Робяць гэта пры гуляючых побач дзецях. Часам спраўляюць свае патрэбы прама ў пясочніцу, - кажа Аляксей Якаўлеў.

Чыноўнік адзначае, што і на Вялікдзень у двары яго дома адбывалася распіццё спіртных напояў двума кампаніямі. Некаторыя з іх не ў стане стаяць на двух нагах перасоўваліся па зямлі з дапамогай рук.

Невядома чаму спрацавала сігналізацыя ў краме "Колас" і па выкліку прыехалі міліцыянты, якія ніяк не адрэагавалі на некалькі кампаній, якія ўжывалі алкаголь у позні час сутак.

- Я звярнуўся да міліцыянтаў, каб яны заняліся навядзеннем парадка ў двары дома, бо шумныя кампаніі заміналі спаць іншым грамадзянам. Акрамя таго яны распівалі спіртныя напоі. Я сапраўды размаўляў эмацыйна, аднак не ўжываў ні абразлівых, ні зняважлівых словаў, - кажа Аляксей Якаўлеў.

Чыноўнік з аблвыканкама адзначае, што пасля яго зваротаў міліцыянты папярэдзілі сабраўшыяся ў двары кампаніі аб адказнасці за распіццё спіртных напояў, аднак забіраць іх у пастарунак не сталі.

**Пасля інцыдэнта зняў з сябе паўнамоцтвы старшыні кааператыва**

11 траўня па ініцыятыве Аляксея Якаўлева адбыўся сход членаў кааператыва дома, на якім ён склаў з сябе паўнамоцтвы старшыні.

Нагодай для гэтага стала публікацыя ў інтэрнэце, паводле якой, на Вялікдзень "у яго сарвала дах".

- Уласнік крамы "Колас", як і прадавачкі не зацікаўлены ў тым, каб крама была зачынена. Яны аўтаматычна губляюць як прыбытак, так і працоўныя месцы. Таксама некаторым кампаніям вельмі падабаецца распіваць спіртныя напоі ў двары дома, - гаворыць Аляксей Якаўлеў.



Па просьбе жыхароў ён даручыў Упраўленню гандлю Магілёўскага аблвыканкама прывесці ў парадак дзейнасць крамы "Колас", а таксама заваршыць абяцанае яе ўласнікам добраўпарадкаванне прылеглай да яе тэрыторыі.

Аляксей Якаўлеў кажа, што падобнае даручэнне выклікала незадаволенасць як работнікаў, так і кіраўніцтва крамы.

Праз тыдзень у чыноўніка ў двары дома быў пашкоджаны аўтамабіль. Іншыя машыны ніхто не крануў. Гэты інцыдэнт зафіксавалі супрацоўнікі міліцыі.

**У якасці заключэння**

Размешчаны на старонках сайта артыкул "На Пасху у зампреда Могилёвского облисполкома Алексея Яковлева «сорвало крышу» з'яўляецца аднабокім і апісвае толькі адзін з эпізодаў жыцця двара жыхароў дома 31А па вуліцы Габраўская, аднак не з'яўляецца поўнай карцінай таго, з якімі праблемамі сутыкаюцца жыхары дома амаль штодзённа.

Дзякуючы тлумачэнням Аляксея Якаўлева ўсё стала на сваё месца. Часам за эмацыйнасцю хаваюцца добрыя справы, якія іншым не бачны на першы погляд і толькі з дапамогай "чароўнага пінка" можна прымусіць тых ці іншых выконваць свае абавязкі.

Рэдакцыя газеты "НАШ Магілёў" выказвае афіцыйныя прабачэнні Аляксею Якаўлеву за размяшчэнне не няпоўнай і ў некаторых месцах зняважлівай інфармацыі.





Якуб Корсак

# У МАГІЛЁВЕ ЖЫХАРЫ ЗАПЛАНАВАНЫХ ДА ЗНОСУ ДАМОЎ ПРАЗ СУД ДАБІЛІСЯ ПРАВЯДЗЕННЯ БУДАЎНІЧАЙ ЭКСПЕРТЫЗЫ

**У судзе Ленінскага раёна Магілёва 19 мая адбылося папярэдняе слуханне па справе жыхароў запланаваных да зносу дамоў па вуліцы Крупскай, якія аспрэчваюць законнасць прынятых гарвыканкамам рашэнняў.**

Жыхары сямі дамоў па вуліцы Крупскай на тэрыторыі былога ваеннага гарадка патрабуюць ад гарадскіх уладаў адмяніць рашэнне аб зносе гэтых будынкаў, прынятае, як яны лічаць, незаконна. Грамадзяне сцвярджаюць, што 26 снежня 2013 года гарвыканкам неабгрунтавана і непублічна прыняў рашэнне, якое зараз аспрэчваецца ў судзе, а акты абследавання кватэр у 2013 годзе не адпавядаюць сапраўднасці. Жыхары ўпэўнены, што іх дамы зносяць для наступнага будаўніцтва, што трэба кваліфікаваць як канфіскацыю зямель пад дзяржаўныя патрэбы, і гэтае жыллё ніяк не можа лічыцца непрыдатным для пражывання. Прадстаўнікі магілёўскай гарадской і абласной улады сцвярджаюць адваротнае, заўляючы, што ўсе дзеянні гарвыканкама законныя.

У залу суда 19 мая прыйшлі прыкладна 40 чалавек. На пасяджэнне не была дапушчана здымачная група мясцовага тэлеканала «Магілёў 2» для відэаздымкі працэсу, нягледзячы на тое, што заяўнікі пісьмова звярталіся да кіраўніцтва суда з просьбай дазволіць відэафіксацыю.

«Суд не стаў разглядаць фармальныя супярэчнасці, па якіх трэба было адмяняць рашэнне гарвыканкама. У дакументах шмат неадпаведнасцяў фактычнаму стану дамоў, іншых супярэчнасцяў. Таксама суд адхіліў хадайніцтва аб правядзенні выязнога пасяджэння», — паведаміў "Нашаму Магілёву" праваабаронца Барыс Бухель.

Паводле яго, калі заяўнікі запатрабавалі правядзення судова-будаўнічай экспертызы, то чыноўнікі, якія прадстаўлялі ў судзе гарвыканкам, адразу пагадзіліся.

«Экспертыза будзе праведзена пасля таго, як заяўнікі збяруць на яе грошы. Гэта будзе каштаваць не адзін дзясятак мільёнаў рублёў», — сказаў Бухель, зазначыўшы, што пасля экспертызы суд атрымае працяг.

Згодна з рашэннем магілёўскіх уладаў, якое яны грунтуюць на ўказе прэзідэнта № 563 ад 16 снежня 2013 года, што набыў моц 1 красавіка 2014 года, тыя, хто мае ў дамах, запланаваных да зносу, прыватызаваныя кватэры, усяляцца ў арэнднае жыллё і атрымаюць грашовую кампенсацыю па рынкавым кошце сваіх цяперашніх кватэр. Жыхарам непрыватызаваных кватэр будзе прапанавана жыллё з дзяржаўнага жылога фонду з магчымасцю яго прыватызацыі да 2016 года. Грамадзяне, якія звярнуліся ў суд, нязгодныя з перспектывай страты сваёй уласнасці.

Вячаслаў Рагуля

# МАДЭРНІЗАЦЫЯ НА «МАЛОЧНЫХ ГОРКАХ»: ЛІНІЮ ЗАКУПІЛІ - ЗАПУСЦІЦЬ САМАСТОЙНА НЕ МОГУЦЬ

**У апошні час усё часцей можна заўважыць адсутнасць малочнай прадукцыі гандлёвай маркі «Малочныя горкі» на прылаўках горада і вобласці. Так званая дзяржаўная «мадэрнізацыя» толькі пагоршыла становішча горацкага масласыраробнага завода. Самі ж работнікі прадпрыемства ў сувязі з гэтым усё больш і больш выказваюць сваю незадаволенасць.**

**Малако «пацякло» у Маскву**

Некалі, у часы Савецкага саюза, магілёўцы, каб паласавацца ўласнай каўбасой, ездзілі па яе ў сталіцу СССР - Маскву.

Аналагічная сітуацыя адбываецца і цяпер, толькі ўжо ў межах Мытнага саюза. Прадукцыя ААТ «Малочныя горкі» адзначана срэбнай і двума бронзавымі медалямі на міжнароднай спецыялізаванай выставе «ХарчЭкспа» ў Маскве ў 2009 годзе.

«Наша прадукцыя выклікала вялікую цікавасць не толькі ў членаў журы, але і ў аптовых пакупнікоў. Мы заключылі кантракты на яе пастаўкі ў Расію» , - адзначылі спецыялісты. Менавіта гэтым тлумачыцца сыход велізарных партый смятаны і малака на Ўсход, у абыход прылаўкаў беларускіх крамаў.

**Тавару няма - чакаем балгараў**

Неўзабаве, услед за малаком і смятанай, з прылаўкаў стаў знікаць і тварог. Аднак, як аказалася, яго няма ні ў Расіі, ні ў Беларусі.

«Тварага няма, бо ўся лінія па яго вытворчасці стала, а нашыя спецыялісты з ёй абыходзіцца не ўмеюць. Вось і чакаем балгараў. Малако ж са смятанай, як і раней, сыходзяць у Расію», - кажа майстар вытворчасці аднаго з цэхаў прадпрыемства Святлана.

Як высветлілася, падчас «мадэрнізацыі» прадпрыемства закупіла абсталяванне балгарскай кампаніі «Nikos Hranengineering» Ltd, аднак, запусціць яго без балгарскіх спецыялістаў беларусам не ўдаецца.

**Заробкі да 500 долараў не дацягваюць**

Незадаволеныя работнікі завода і напружанай працай. Майстры, тэхнолагі і простыя рабочыя працуюць па графіку: дзень-ноч - адсыпны - выхадны. Што тычыцца заробкаў, то яны не зусім высокія.

Рабочыя, з улікам начных зменаў, зарабляюць усяго каля 4 мільёнаў рублёў.

Утрымліваць работнікаў на прадпрыемстве атрымліваецца толькі дзякуючы працоўным кантрактам.

